Гродна
№7 (513),
7 красавіка 2019

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# ВІТАЙМА ЗБАЎЦУ!

ПАЛЬМОВАЯ НЯДЗЕЛЯ, АБО ВЕРБНІЦА, – ГЭТА СВЯТА Ў ГОНАР УВАХОДУ ЕЗУСА ХРЫСТА СА СВАІМІ ВУЧНЯМІ Ў ІЕРУСАЛІМ НА ВЯСЕННЯЕ СВЯТА ПАСХІ. АПОШНЮЮ НЯДЗЕЛЮ ВЯЛІКАГА ПОСТУ НАЗЫВАЮЦЬ ТАКСАМА НЯДЗЕЛЯЙ МУКІ ПАНА. ЯНА РАСПАЧЫНАЕ ВЯЛІКІ ТЫДЗЕНЬ, ЯКІ ЗАКАНЧВАЕЦЦА Ў ВЯЛІКДЗЕНЬ.

● працяг на с. 4

“Хрыстовы крыж вядзе не да смутку, але да радасці”. Папа Францішак




**V НЯДЗЕЛЯ ВЯЛІКАГА ПОСТУ**
**Ян 8, 1–11**

Езус пайшоў на Аліўную гару, а раніцай зноў з'явіўся ў святыні. І ўсе людзі ішлі да Яго, а Ён сеў і вучыў іх. Прывялі тады кніжнікі і фарысеі да Яго жанчыну, якую злавілі на чужаложстве. Паставілі яе пасярэдзіне і сказалі Яму: "Настаўнік, гэтую жанчыну злавілі на чужаложстве. А Майсей наказаў нам у Законе каменаваць такіх. А Ты што скажаш?". Яны казалі гэта, бо выпрабоўвалі Яго, каб мець у чым абвінаваціць Яго. Але Езус, схіліўшыся, пісаў пальцам па зямлі. Калі ж пыталіся ў Яго далей, Ён выпрастаўся і сказаў ім: "Хто з вас без граху, няхай першы кіне ў яе камень". І зноў, схіліўшыся, пісаў па зямлі. Яны ж, калі пачулі гэта, выйшлі адзін за адным, пачынаючы са старэйшых. Застаўся адзін Езус і жанчына, якая стаяла пасярэдзіне. Езус выпрастаўся і сказаў ёй: "Жанчына, дзе яны? Ніхто не асудзіў цябе?". Яна адказала: "Ніхто, Пане". Езус сказаў ёй: "І Я не асуджаю цябе; ідзі, і адгэтуль больш не грашы".

## ВЫКАНАЦЬ ЗАДАННЕ

Жанчына, абвінавачаная ў чужаложстве, атрымлівае ад Хрыста канкрэтнае заданне для выканання: не грашы, ідзі і выкарыстай шанс жыць далей так, каб пазбягаць граху. Гэтае заданне скіравана і нам!

Не асуджайма, хоць віна бліжняга здаецца яснай. Памятайма, што жаль і навяртанне – гэта не толькі пачуцці, але найперш мастацтва вучыцца на ўласных памылках. Усведамляйма, што не з'яўляемся адзінокімі – з намі Збаўца, які таксама чакае, што мы выканаем сваё заданне на шляху да Вечнага Валадарства.

Збаўленне не звязана толькі са сціраннем грахоў – гэта было б занадта проста. Як вольныя асобы мы маем прывілей і адначасова вялікі абавязак браць адказнасць за ўласнае жыццё і збаўленне. Гэта важнае і складанае заданне. Але калі за яго не возьмемся, у нашым жыцці нічога не зменіцца.

**Ці імкнецца маё сэрца прабачыць тым, хто зграшыў супраць мяне?**

**Якім чынам стараюся стаць падобным да Хрыста?**

**ПАЛЬМОВАЯ НЯДЗЕЛЯ**
**Лк 19, 28–40**

Езус пайшоў далей, узыходзячы ў Іерусалім. І калі Ён наблізіўся да Бэтфагіі і Бэтаніі, да гары, называнай Аліўнай, паслаў двух вучняў сваіх, кажучы: "Ідзіце ў вёску, што перад вамі, і, калі ўвойдзеце ў яе, знойдзеце прывязанае асляня, на якое ніхто з людзей ніколі яшчэ не сядаў. Адвяжыце яго і прывядзіце. А калі нехта спытаецца ў вас, навошта адвязваеце, скажыце яму так: "Яно патрэбна Пану"". Пасланцы пайшлі і знайшлі ўсё так, як сказаў ім. А калі яны адвязвалі асляня, гаспадары яго запыталі іх: "Навошта адвязваеце асляня?". Яны адказалі: "Яно патрэбна Пану". І прывялі яго да Езуса, і, накінуўшы на асляня сваё адзенне, пасадзілі Езуса. І калі Ён ехаў, рассцілалі адзенне сваё на дарозе. А калі наблізіўся да падножжа гары Аліўнай, усё мноства вучняў Яговых пачало ў радасці гучным голасам славіць Бога за ўсе цуды, якія яны бачылі, кажучы: "Бласлаўлёны Кароль, які ідзе ў імя Пана! Спакой у небе і хвала на вышынях!". Некаторыя фарысеі з натоўпу сказалі Яму: "Настаўнік, забарані вучням Тваім". А Ён адказаў: "Кажу вам, калі яны змоўкнуць, дык камяні закрычаць".

## ІМКНУЦЦА ЗА ІМ

Кантраст Пальмовай нядзелі здзіўляе. Разам з тым ён надзвычай праўдзівы, дакладна перадае зменлівасць людскіх сэрцаў, супярэчнасці і ваганні пачуццяў, настрояў, намераў, непастаянства ў стаўленні да Бога і бліжняга. Калі здолеем быць сапраўды шчырымі і крытычнымі да сябе, то, бясспрэчна, заўважым уласную няўстойлівасць і нясталасць: у сваіх учынках мы неаднойчы здольны быць высакароднымі, велікадушнымі, ахвярнымі, але хапае сітуацый, калі паводзім сябе дробязна, баязліва, подла, проста грэшна.

У Вялікім тыдні, які хутка распачнецца, Хрыстос прагне прыгадаць нам, што з Ім пераадолеем усе напасці, пераможам любую цяжкасць, вынесем цяжар сваіх смуткаў, клопатаў і пакут. Яго слова, прыклад, і, перш за ўсё, дар Яго ласкі дапамогуць штодзённа выбіраць добра і прыгажосць, шукаць справядлівасць і праўду, слухаць голас сумлення і даваць адпор усяму, што вядзе на бездарожжа граху.

Не трэба баяцца ісці за Езусам дарогай крыжа. Памятайма, што ў канцы гэтай дарогі нас чакае не небыццё смерці і цемра магілы, а радасць велікоднай раніцы, якая абвяшчае паўнату жыцця.

**Як часта я разважаю пра прыніжэнне і любоў Хрыста ў Яго Муцы і Смерці?**

**Якім чынам рыхтуюся да пасхальных падзей?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

**Слова рэдактара**


*Кс. Юрый Марціновіч*

# Таямніца веры

*Пальмовай нядзеляй – Нядзеляй Мукі Пана – распачынаем адзначэнне Вялікага тыдня. Гэтыя 7 дзён у кантэксце літургічнага года займаюць выключнае месца ў жыцці вернікаў.*

Цэнтральнай падзеяй Вялікага тыдня становіцца Пасхальны Трыдуум. "Святкуючы Таямніцу Збаўлення, Касцёл адкрывае багацці збаўчых учынкаў і заслуг свайго Пана так, што яны прадстаўляюцца, як гэта было ва ўсе часы, каб вернікі дакрануліся да іх і атрымалі ласку збаўлення" (Канстытуцыя аб святой літургіі №102).

Як хрысціяне мы не можам забывацца, што Вялікі тыдзень – гэта вялікая Таямніца веры. Без веры ў Хрыста не пражывём адпаведным чынам гэты бласлаўлёны час. Менавіта яна з'яўляецца прычынай таго, што высока ўзносім галінкі вербачак і з радасцю абвяшчаем мітуслівому і згубленаму свету: "Бласлаўлёны Кароль, які прыходзіць у імя Пана!" (Лк 19, 38). Гэта вера не дазваляе замаўчаць там, дзе гаворка ідзе пра праўду аб Богу, аб Касцёле, аб чалавеку, нягледзячы на тое, што неаднойчы за такое можа быць закіданым камянямі нянавісці і паклёпу (параўн. Лк 19, 40).

Гэта менавіта вера ў Настаўніка вучыць услухоўвацца ў жыватворнае Слова, якое кожную раніцу пабуджае хрысціяніна – вучня Хрыста – прыняць і ажывіць ім сваю дзейнасць і жыццё (параўн. Іс 50, 4–5). Менавіта яна дазваляе прыняць постаць слугі ў служэ свету і Касцёлу, ды адкінуць спакусу, якая падпарадкоўваецца ўладзе і перавазе коштам чалавечай годнасці (параўн. Флп 2, 6–11).

Гэта вера ў Божага Сына ў кантэксце святога Хрызма ў Вялікі чацвер дае магчымасць заўважыць у святарскай паслузе, так часта абмежаванай з-за людской слабасці, "другога Хрыста", які прыходзіць да чалавека моцай сакраментальнай ласкі. Гэта яна дапамагае падысці да Эўхарыстычнага стала і ўбачыць пад постацցю хлеба і віна сапраўднае Цела і Кроў Пана Езуса, выдадзенае дзеля нашага збаўлення.

Менавіта вера ў Месію заклікае нас падчас адарацыі ў Вялікую пятніцу ўпасці на калені перад аблічам укрыжаванага Хрыста і хваліцца крыжом (параўн. Гал 6, 14), калі многія яго адштурхоўваюць. Узмоцненая сведчаннем Хрыста на Кальварыі яна дазваляе дараваць нашым вінаватым: "Ойча, прабач ім, бо не ведаюць, што робяць" (Лк 23, 34).

Гэта вера ў Збаўцу ў бляску пасхальнай свечкі запрашае з радасцю спяваць велікоднае "Алелюя" і цешыцца прысутнасцю ўваскраслага Пана. Народжаная ў водах святога хросту і адноўленая таямніцай Мукі, Смерці і Уваскрасення, яна вядзе на сустрэчу з Ім, каб "мелі жыццё і мелі ў дастатку" (Ян 10, 10).

**Дарагія Чытачы!**

Вялікі тыдзень, які хутка распачнецца, з'яўляецца таямніцай нашай веры. На працягу гэтых дзён асаблівым чынам "абвяшчаем смерць Тваю, Пане Езу, вызнаём Тваё ўваскрасенне і чакаем Твайго прыйсця ў хвале".

ЖЫЦЬ ЕВАНГЕЛЛЕМ

# ПЕРШЫ СІНОД ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



## Камісія па справах духавенства

Без існавання Камісіі па справах духавенства працы астатніх сінадальных груп мелі б толькі часовы плён, паколькі стабільныя плады Сінода ў вырашальнай ступені залежаць ад удзелу ўсіх святароў Гродзенскай дыяцэзіі. Іх паслуга і вопыт асаблівым чынам павінны паўплываць на духоўнае дабро дыяцэзіі, якое вынікае з трываючых сінадальных пасяджэнняў.

Камісія па справах духавенства закранае шырокае кола тэм, якія датычаць жыцця святароў. Гэта, між іншым, пытанні, звязаныя са сталай духоўнай і навуковай фармацыяй душпастыраў, рэгуляваннем іх паслугі і жыцця, у тым ліку бытавых спраў, крызісаў і цяжкасцей, а таксама з адносінамі святароў да грамадскіх спраў.

У цяперашні час члены Камісіі абмяркоўваюць форму будавання супольнасці і братняга супрацоўніцтва душпастыраў лакальнага Касцёла на ўзроўні парафіі, дэканата і дыяцэзіі. Узнята пытанне рэзідэнцтва святароў у парафіях, каб вернікі мелі непасрэдны доступ да сваіх душпастыраў.

Вялікая ўвага звяртаецца на святарскі абавязак нашэння належнага адзення. У Кодэксе кананічнага права чытаем: "Духавенства павінна насіць адпаведны касцёльны ўбор, згодны з правіламі, выдадзенымі Канферэнцыяй Біскупаў, а таксама з мясцовай традыцыяй, якая адпавядае прадпісанням закона" (кан. 284). У сведзе, які губляе свядомасць існавання Бога, святар сваім выглядам павінен прыгадваць пра прызначэнне чалавека і быць сапраўдным сведкам Хрыста. Найлепшым чынам гэтую мэту рэалізуе сутана ці т. зв. "кароткі ўбор". Камісія падкрэслівае, што ў практыцы нашэння духоўнага адзення важнае значэнне маюць 2 рэчы. Па-першае, унутраная цэласнасць святара, г. зн. глыбокае ўсведамленне сваёй святарскай ідэнтычнасці. Аднак аб ёй сведчыць, у першую чаргу, не духоўны ўбор, а ўнутраная настраенасць святара, якая выражаецца ў гатоўнасці сведчання – найперш сваёй паставай – пра Хрыста і выбраны шлях. Па-другое, здаровы розум, які прадбачліва наказвае адрозніваць, патрабуе канкрэтная сітуацыя апранання духоўнага адзення ці зусім наадварот.

Акрамя гэтага дыскусіі вядуцца на тэму прыналежнасці святароў да таварыстваў і выканання імі грамадскіх функцый. Адзначана, што дыяцэзіяльныя святары могуць далучыцца да таварыстваў духоўных асоб, якія маюць статуты, зацверджаныя кампетэнтнымі касцёльнымі органамі, паведамііўшы папярэдне дыяцэзіяльнаму біскупу. Прысутнасць у таварыствах заклікана дапамагчы ў імкненні да асабістай святасці, у выкананні святарскай паслугі, паглыбленні ўзаемных сувязей і сувязі з біскупам. Гаворачы аб прыняцці грамадскіх функцый, Камісія нагадвае, што духавенства, у згоднасці з нормамі, усталяванымі ў кананічным праве, павінна ўстрымлівацца ад усяго, што не адпавядае іх стану. У прыватнасці, святарам забаронена выконваць якія-небудзь грамадскія функцыі, належаць да палітычных груповак і партый, прафсаюзаў, а таксама гандляваць і праводзіць матэрыяльныя аперацыі.

Цяжка пераацаніць важнасць і значнасць Камісіі па справах духавенства. Чым лепш яна правядзе дыягностыку бягучага стану лакальнага Касцёла, тым больш дакладна распазнае Божыя знакі часу ў адносінах да місіі дыяцэзіяльнага духавенства, тым больш адэкватна ўкажа на неабходныя змены, тым больш багаты будзе плён І Сінода Гродзенскай дыяцэзіі. Вельмі важна, каб святары з усёй унутранай перакананасцю ўдзельнічалі ў працы Сінода. Без уцягнутасці духавенства сінадальныя палажэнні могуць застацца прыгожа запісанымі, але практычна мёртвымі літарамі.

*Кс. Юрый Марціновіч*

# ВЕЛІКАПОСНЫ РАХУНАК СУМЛЕННЯ

Сёлетні перыяд Вялікага посту, калі кожны мог стаць у праўдзе, прызнаць свае памылкі і выправіцца, паволі падыходзіць да свайго завяршэння. Пройдзены за гэты прамежак часу шлях дапамагае наблізіцца да самай неспасцiжнай Падзеі ў гісторыі чалавецтва, той Таямніцы, якая перавышае ўсялякае разуменне і якую немагчыма спазнаць уласнымі сіламі – Уваскрасенне Езуса Хрыста. Таму, напэўна, так важна напрыканцы велікапоснай дарогі спыніць свае крокі ў імклівым рытме штодзённасці, каб паразважаць над тым, як прайшоў гэты благаслаўлёны час навяртання, якія перамены прынёс у жыццё, ці паўплываў на глыбіню адносін з Богам і бліжнім.



40 дзён няспыннага змагання з тым, што аддаляе ад Бога, што перашкаджае прыняць Яго бязмежную любоў. Як я магу ацаніць адведзены час? Ці ўвогуле здольны зрабіць гэта самастойна? Можа, дапамогуць тыя людзі, якія знаходзяцца побач ды дасканала ведаюць мяне і ўсё мае заганы? Што яны скажуць? Ці заўважаць тую перамену ў жыцці, да якой так моцна імкнуся? Можа, запытаць у Бога, як я пражыў гэты час? Цікава, які адказ атрымаю? А можа, увогуле сорамна ў кагосьці пытацца пра такія рэчы, таму што вельмі страшна зазірнуць у глыбіню сваёй душы, бо там можна сустрэць пустату?

Св. Ян Златавуст у адной са сваіх кранальных пропаведзей сказаў: “Знайдзі ключ ад свайго сэрца і ўбачыш, што гэта ключ у Божае Валадарства”. Дзе знаходзіцца той “ключ”? Ці не згубіў я яго дзесьці па дарозе да Велікодных свят? Як бы балюча не было шукаць адказы на пастаўленыя пытанні, без гэтага нам будзе вельмі складана ўвайсці ў Таямніцу Смерці, Мукі і Уваскрасення Езуса Хрыста.

Падрыхтоўка да Вялікага посту ў кожнага з нас праходзіла па-рознаму. Хтосьці прыклаў усе намаганні для таго, каб гэты шлях прынёс як мага больш духоўнага плёну, а хтосьці, на жаль, не здолеў рэалізаваць усе тыя пастановы, з якім вырушыў на спаткане з уваскрослым Хрыстом. Аднак, які б ні быў вынік нашага высілку, не трэба засмучацца, бо пільнае выкананне прынятых пастаноў не з’яўляецца яшчэ той канчатковай мэтай, да якой кожны пакліканы. Мэта ўсіх намаганняў – вечнае жыццё, якое павінна распачацца не калі-небудзь у будучыні, а цяпер, сёння, тады, калі Збаўца прагне стаць для чалавека адзіным сэнсам існавання.

У апошнія дні пакаяннага перыяду важна зразумець, што ўсё задуманае і здзейсненае не павінна стаць прычынай пыхі, самазадаволенасці. У такім выпадку ўсе старанні стануць дарэмнымі. Сапраўднай цнотай з’яўляюцца не тыя вымаганні, якія былі пастаўлены перад сабой, але цярплівасць, з якой зносяцца розныя абставіны жыцця.

Гэтыя словы гучаць вельмі абнадзейліва, асабліва для тых, хто падчас велікапоснай дарогі сустрэўся са шматлікімі жыццёвымі выпрабаваннямі, такімі, як страта блізкага чалавека, непаразуменне ў сям’і, складаныя ўзаемаадносіны на працы, цяжкае матэрыяльнае становішча і г. д. На чым жа сканцэнтраваць свой позірк у такія няпростыя хвіліны? Папа Францішак дае нам адказ: “На Укрыжаваным, бо менавіта Езус на крыжы – гэта той жыццёвы компас, які скіроўвае нас да Неба. Убогасць дрэва, маўчанне Пана, Яго пазбаўленне ад усяго дзеля любові заклікаюць нас да такога ж самаахвярнага жыцця”. Ці складана жыць так, як Ён нам прапануе? Так, складана. Але калі будзем перажываць усе радасці і цяжкасці, вяртаючыся зноў і зноў да той невычэрпнай крыніцы жыцця, якой з’яўляецца ўваскрасенне Божага Сына, то зможам сапраўды захаваць надзею, якая надае адзіны сэнс зямному вандраванню.

Час Вялікага посту з’яўляецца перыядам духоўнага абнаўлення, які рыхтуе кожнага з нас да Пасхі Хрыстовай – свята надзеі, радасці, трыумфу жыцця над смерцю, дабра над злом. Гэта тыя хвіліны, калі так неабходна паставіць перад сабой жыццёва важныя пытанні і даць на іх адказ. Калі апошні раз я адчуваў у сваім сэрцы ні з чым не параўнальную радасць, супакой, надзею, якую можа даць толькі Бог? Што яшчэ перашкаджае мне прыняць Хрыста як адзінага Валадара, які дзеля збаўлення кожнага чалавека прайшоў праз неймаверныя цярпенні і мукі? Ці Крыж з’яўляецца для мяне доказам невымоўнай Божай любові? Ці веру ў тое, што няма такога граху, які б Бог не мог дараваць, калі глядзіць на сэрца, поўнае жалю і жадання прымірэння? Няхай гэтыя ды іншыя пытанні суправаджаюць нас, калі будзем рыхтавацца да велікапоснай споведзі, каб у паўнаце перажыць збаўчыя Падзеі, якія неўзабаве надыдуць.

*Кл. Яўген Амасёнак*

## СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

### *Папа Францішак*



*Усе мы маем патрэбу ў навяртанні, у тым, каб зрабіць крок наперад, а Божая цярплівасць суправаджае нас у гэтым. [...] Можам спадзявацца на шчодрую міласэрнасць Найвышэйшага, але не павінны злоўжываць ёй. Нам належыць не займацца апраўданнем духоўнай ляноты, а ўзмацняць свае высілкі, каб неадкладна адказаць на гэтую міласэрнасць са шчырым сэрцам.*

*У час Вялікага посту Пан заклікае чалавека да навяртання. Кожнаму з нас неабходна адчуць гэты заклік, выпраўляючы штосьці ў сваім жыцці, у ходзе сваіх думак, учынкаў, у адносінах з бліжнім. У той жа час мы павінны наследаваць цярплівасць Бога, які верыць, што можам “узняцца” і зноў распачаць шлях. Бог – Айцец, Ён не гасіць слабы агонь, але суправаджае і ахінае клопатам таго, хто слабы, каб мог стаць мацней і зрабіць свой унёсак любові ў грамадства.*

*Няхай Панна Марыя дапаможа нам перажыць гэтыя дні падрыхтоўкі да Пасхі ў якасці часу духоўнага абнаўлення і даверлівай адкрытасці на ласку і міласэрнасць Бога.*

*Фрагмент прамовы перад малітвай “Анёл Панскі” ў Ватыкане, 24.03.2019*

### *Кс. бп Аляксандр Кашкевіч*



*У сцэне Звеставання бачым Марыю, заклапочаную і разгубленую, якая да канца не разумее слоў анёла, не ведае дакладна, як яны павінны здзейсніцца ў адносінах да Яе. Але, нягледзячы на вялікі страх і няўпэўненасць, Марыя гаворыць Богу сваё “fiat”: “Няхай мне станецца паводле твайго слова” (Лк 1, 38).*

*Адзінае, чаго прагне Марыя, – быць слугой Пана і верна выконваць Яго волю. Менавіта ў той момант, калі Марыя адказвае Пану Богу “так”, Яе дзявоцкае ўлонне прымае Збаўцу. Слова становіцца Целам і пасяляецца паміж намі.*

*Раз і назаўсёды змяняецца ход гісторыі чалавецтва. А для Марыі пачынаецца ў гэты момант ціхая, утоеная ад людскіх позіркаў, вядомая толькі Ёй і Пану Богу, нялёгкая пілігрымка веры. І хоць у Святым Пісанні знаходзім няшмат інфармацыі пра жыццё Марыі, ведаем, якой складанай, а часта ўвогуле балючай была Яе жыццёвая вандроўка. Пан Бог, нягледзячы на тое, што адарыў Марыю найбольшым гонарам – быць Маці Яго Сына, – не пашкадаваў для Яе цярпенняў, болю і выпрабаванняў веры. Яшчэ не адзін раз Яна вымушана будзе паўтарыць Пану сваё “fiat”, пацвердзіць гатоўнасць выканання Яго волі з глыбокай верай і безумоўным даверам. Ніколі не пачуем з вуснаў Марыі слоў бунту, наракання ці скаргі. Яна назаўсёды застанецца вернай, пакорнай, паслухмянай слугой Пана.*

*Фрагмент гаміліі, прамоўленай у свята Звеставання НПМ у Сакулцы, 25.03.2019*



*З Богам праз штодзённасць*

# Божая прысутнасць

Мінулым разам мы спыніліся на захапленні гэтым светам, які Бог стварыў і працягвае ствараць, весці, развіваць і ў які нам прапануе ўвайсці Яго супрацоўнікамі. Вялікае пакліканне... Мы не здолеем дарэшты спасцігнуць яго, як і глыбіні Божай мудрасці ды любові, і ўсё ж, Ён чакае кожнага з нас.

Кніга Быцця распавядае пра Бога ў Раі, з якім Адам і Ева маглі размаўляць тварам у твар. Наколькі цяперашняя малітва імкнецца да такой размовы, да прабывання побач з Усемагутным? Прыглядзімся да таго, як мы прыходзім, звяртаемся да Яго... Так, Бог прымае ўсе нашы просьбы, рады нават позірку ў свой бок. Але ці гэтага прагне? Ён чакае чалавека як асобу, якую любіць, а мы часта зводзім нашу лучнасць з Ім да свайго роду службы “Адно акно”. Калі наш сябар, напрыклад, знаходзіцца ў суседнім кабінеце, і мы часта вырашаем з ім розныя пытанні, то працоўная дзейнасць з’яўляецца толькі часткай сяброўства. Ёсць штосьці непараўнальна большае ў сустрэчах, доўгіх размовах, перапынках на каву ці на шпацыр, у прысутнасці без слоў. Калі на гэта няма часу, у першую чаргу, у нас саміх, то сябар нават пры вялікім жаданні не створыць той выключнай сувязі, на якой трымаецца сяброўства.

Часта можна пачуць, што з сябрамі справы можна вырашаць без цырымоній і нават эканоміць час на прывітанні. Чамусьці гэтыя “вызваленыя” імгненні знікаюць без аніякай карысці, не могуць “назбірацца” на сустрэчы, што адкладваюцца зноў і зноў. А калі сябры адыходзяць, у душы з’яўляецца пустка. Разумееш, што не ставала часу на самае галоўнае, бо справы былі толькі часткай адносін. З Богам гэтаксама. Езус Хрыстус назваў сябе нашым Сябрам. Наколькі б важнымі не былі пытанні, з якімі прыходзім (нават евангелізацыйныя і дабрачынныя), Ён можа адкласці іх, каб прапанаваць: “Прайдзіся са Мной”. Колькі часу заняў бы нам такі шпацыр: 5 хвілін, дзень, усё жыццё? Ці адгукаемся, калі ўтрапёна шыбуем наперад, занятыя сваімі думкамі, на гэты далікатны дотык да пляча: “Азірніся, Я тут”?

Што магло б дапамагчы нам адказаць на гэтае запрашэнне? У розных школах малітвы ёсць нямала цудоўных парад, як паглыбіць сваё духоўнае жыццё. Адной з іх з’яўляецца “ўсведамленне Божай прысутнасці”, асаблівым чынам перад тым, як пачаць маліцца. Усведамленне сябе ў Божай прысутнасці падразумявае цяперашні час і канкрэтнае месца, а таксама – канкрэтнага чалавека з душой і целам. Хто я? Дзе знаходжуся і што адчуваю? Якімі пачуццямі ахоплены? Якія трывогі нашу з сабой не першы дзень? Варта паспрабаваць прыпыніць бег, каб проста заўважыць самога сябе, паглядзець – не ўпадаючы ні ў жаль, ні ў захапленне – знутры і нейкім чынам звонку. Коратка адзначыць, хто ж гэта спрабуе адказаць на Божае запрашэнне словамі: “Вось я”, – бо мы толькі адказваем – Бог заўсёды прыходзіць першым.

Вядома, да спантаннага малітоўнага заклiку нас рыхтуе сама сітуацыя, калі сэрца захапляецца, радуецца, скардзіцца, моліць аб дапамозе ці ўздыхае без слоў. Што ж дытычыць малітвы запланаванай, то яна патрабуе пэўнай уступнай часткі.

Перш чым “разгарнуць” Божы дар, якім з’яўляецца малітва, трэба спыніцца на некалькі хвілін і ўсвядоміць, што адбываецца. Аднак ці можа неспасцігальная таямніца гэтай Прысутнасці зводзіцца да сціплага яе ўсведамлення на некалькі хвілін? Тым не менш, калі гаворка ідзе пра сталую штодзённую малітву, хапае гэтай простай парады: успомніць, перад Кім я стаю.

Не трэба баяцца маўчання падрыхтоўчага этапу малітвы. Засяроджанасць павінна апярэджваць словы. Цішыня паміж закаханымі і сябрамі поўніцца сэнсам, які разумеюць толькі яны. Як мудра хтосьці сказаў, “нашы словы растуць з цішыні”. Чаму маўчанне часам выглядае стратай каштоўнага часу? Можа, варта задумацца, ці не злы дух так падганяе пачаць малітву, хутчэй адгаварыць свой малітоўны маналог і вярнуцца ў вір звыклых абавязкаў?

На жаль, імкненне сучаснага свету да эфектыўнасці пранікае і ў сферу малітвы. “Дзе вынік?” – можам спытацца мы. Сапраўды, ці Божая прысутнасць вырашае праблемы? Магчыма, гэта штосьці іншае? Напрыклад, вера, што ты не адзін. Так як некаторыя цяжкасці і праблемы крочаць побач з намі праз усё жыццё, таямніца цярпення па-чалавечы застаецца незразумелай. Бог можа здавацца глухім і далёкім, але абяцанне “Я з вамі да сканчэння свету” (параўн. Мц 28, 20) жывое і нязменнае, бо яго даў Езус Хрыстус, які ўваскрос з памерлых. Такім чынам, скрозь час, хваробы і беды чалавек не ідзе ў самоце. Вялікі палеантолаг айцец езуіт П’ер Тэяр дэ Шардэн пісаў: “Бог не далёка ад нас. Ён там, дзе маё пяро, мая кірка, мой пэндзаль, мая іголка – і ў маім сэрцы, і ў маіх думках”.

У адным біблійным псалме ёсць цудоўны і таямнічы радок: “Калі я прачынаюся, я ўсё яшчэ з Табою” (параўн. Пс 139 (138), 18). Інтэрпрэтацый яго існуе вялікае мноства. У сувязі з сённяшняй тэмай Божай прысутнасці можна дазволіць сабе прачытаць яго як заахвочванне да прабывання з Богам. Не толькі ў днях маладосці, імпэту, запалу, але і тады, калі нічога ні ў матэрыльнай, ні ў духоўнай вобласці не падымае раніцай з ложка. “Я ўсё яшчэ...” не таму, што я трымаюся з Ім, ведаю, як сябе паводзіць і што казаць, але таму, што Ён любіць мяне так, што не адыходзіць ні на імгненне. Ці абуджуся я ад сваёй няўважлівасці да Божай прысутнасці?

*Тэрэса Клімовіч*




◆ *Папа Францішак прыняў рашэнне дадаць да 694-га канона Кодэкса нананічнага права аб выпадках выдалення з супольнасці манаха ці манахіні таксама сітуацыю як мінімум 12-месячнай бесперапыннай беспадстаўнай адсутнасці ў манаскай супольнасці. Папа паінфармаваў аб гэтым у форме Motu proprio, які ўступае ў сілу 10 красавіка.*

◆ *У Венесуэле інфляцыя перавысіла 1,6 млн %. Нерэнтабельна больш за палову бальніц і клінік. У такой катастрафічнай сітуацыі "Карытас" мабілізуецца, каб дапамагчы людзям, якія галадаюць. Для самых беззабаронных – цяжарных жанчын, пажылых людзей, хворых і дзяцей – штодня ў сталовых пры парафіях гатуюць гарачую ежу. Акрамя гэтага, "Карытас" арганізуе акцыі "Гаршчок салідарнасці" і "Аптэкі салідарнасці". Нягледзячы на цяжкае становішча грамадства, прэзідэнт Венесуэлы Мадура Морас надалей блакуе дастаўку гуманітарнай дапамогі з-за мяжы.*

◆ *Хрысціяне Пакістана звярнуліся да прэм'ера краіны Імра Хана з петыцыяй узяць пад абарону прадстаўнікоў рэлігійных меншасцей. Гаворка ідзе асаблівым чынам пра маладых дзяўчат – хрысціянак і індуістак, якіх выкрадаюць і праз прымусовыя шлюбы загадваюць пераходзіць у іслам. Ганебная з'ява штогод закранае каля тысячы дзяўчат. З-за гэтага падлеткі жывуць у пастаянным страху, хаваюцца па хатах, рэдка выходзяць на вуліцу. Некаторыя сем'і нават адмаўляюцца пасылаць дзяўчат у школу, што дрэнна адбіваецца на іх будучыні.*

◆ *У Індыі штомесяц здзяйсняецца каля 50-ці тысяч селектыўных абортаў. Ахвярамі становяцца ненароджаныя дзяўчынкі. Акрамя таго, даследаванні, праведзеныя па распараджэнні індыйскага ўрада, паказваюць, што 21 мільён дзяўчынак з'яўляюцца непажаданымі ў сем'ях з-за свайго полу. Часта яны таксама становяцца ахвярамі гвалту і розных форм дыскрымінацыі. У сувязі з гэтым амерыканская пралайф-арганізацыя "Alliance Defending Freedom" праводзіць кампанію #VanishingGirls ("Дзяўчынкі, якія знікаюць"), каб прыцягнуць увагу сусветнай грамадскасці да існуючай праблемы.*

◆ *Бр. Пітэр Табічы OFM атрымаў узнагароду "Global Teacher Prize 2019", а разам з ёй – мільён долараў. Францысканец працуе настаўнікам матэматыкі і фізікі ў сяле Пвані (Танзанія). Свой заробак ён на 80% ахвярue вучням, якія часам не могуць дазволіць сабе купіць школьную форму і падручнікі. Брата Табічы вылучылі з 10-ці тысяч кандыдатаў на ўзнагароду, адзначыўшы яго педагагічныя дасягненні і публікацыю некалькіх кніг. Прэмія "Global Teacher Prize 2019" прызначаецца на праекты ў такіх галінах, як адукацыя, сельская гаспадарка і будаўніцтва міру.*

*credo.pro; ekai.pl; vaticannews.va*

# ВІТАЙМА ЗБАЎЦУ!

● *працяг са с. 1*

## ПАЛЬМОВАЯ НЯДЗЕЛЯ ПРАЗ ПРЫЗМУ ГІСТОРЫІ

Вербніца – адно з самых старадаўніх свят у традыцыі Касцёла. Яно вядома з IV стагоддзя, інакш кажучы, з пачатку прызнання хрысціянства афіцыйнай рэлігіяй. Тагачасныя вернікі імкнуліся як мага больш дакладна перадаць памятныя падзеі. Пачалося ўсё з рэканструкцыі ўезду Езуса ў Іерусалім. Звычайна іерарх у акружэнні радасната натоўпу вырушаў на асле з Аліўнай гары і заязджаў у горад. Дарэчы, звяртаючыся да сімволікі абранай жывёлы, асёл павінен быў падкрэсліць убогасць і прастату Збаўцы, а таксама акцэнтаваць яго мірныя намеры. Жарабя асліцы, якое нават не належала Езусу (было пазычана ва ўладальніка), прызначалася толькі для таго, каб даставіць Хрыста ў неабходнае месца.

У літургіі Нядзелі Мукі Пана таксама вядомы звычай, калі святар, выходзячы з касцёла перад распачаццем працэсіі, замыкаў брамы святыні. Пасля завяршэння шэсця 3 разы стукаў па ёй крыжом і толькі затым адчыняў вароты і ўваходзіў з удзельнікамі працэсіі ў храм, каб распачаць св. Імшу. Так сімвалічна абыгрываўся той факт, што зачыненае Неба было адкрыта заслугай смерці Езуса на крыжы.

Увогуле, літургія Пальмовай нядзелі звяртае ўвагу на 2 важныя моманты: разважанне Мукі Хрыстовай і радасную працэсію з пальмамі. Такім чынам Касцёл падкрэслівае, што перамога Езуса і Яго ахвяра непарыўна звязаны паміж сабой.

На нашых землях Пальмовая нядзеля адзначаецца з часоў сярэднявечча. Менавіта ў той час узнік звычай асвячэння пальм. І да гэтага дня вернікі ўсяго свету бласлаўляюць іх у памяць аб тых пальмавых галінках, якімі людзі віталі Хрыста, сцелячы перад Ім свае адзенне, як гэта было прынята на трыумфальных уездах вялікіх асоб. "На другі дзень многія, хто прыйшоў на свята, пачуўшы, што Езус ідзе ў Іерусалім, узялі пальмавыя галінкі і выйшлі Яму насустрач, і ўсклікалі: «Гасанна! Бласлаўлёны той, хто прыходзіць у Імя Пана, Кароль Ізраэля!»" (Ян 12, 12–13).

У хрысціянскім кантэксце пальма мае некалькі значэнняў. Па-першае, яна з'яўляецца сімвалам трыумфу, па-другое – мучаніцкай смерці. Абодва элементы знайшлі сваё адлюстраванне ў лёсе Хрыста. Таксама пальма сімвалізуе справядлівасць і мудрасць. У рэлігійнай арнаментыцы пальма азначае райскае жыццё ў Небе або тут, на зямлі. У цэні пальмавых галінак святыя шукаюць адпачынку і суцішэння.

У сувязі з тым, што ў Беларусі пальмы не растуць, вернікі прыносяць на працэсію галінкі вярбы, упрыгожаныя кветкамі ці штучным дэкорам. Менавіта па гэтай прычыне сама нядзеля атрымала назву "Вербная нядзеля" ці "Вербніца".





## З ВЯРБОЙ НАСУСТРАЧ ПАНУ, АБО ПРА СІМВОЛІКУ "КОЦІКАЎ"

У нашай кліматычнай зоне вярба – адзіная расліна, якае па форме нагадвае іерусалімскую пальму. Яе лапападобныя галінкі сталі наглядны прычынай, чаму менавіта лаза стала сімвалам Пальмовай нядзелі на нашых землях. Аднак гэта не выключная падстава, дзякуючы якой вярба мае гонар сустракаць Месію ў штогадовых святочных працэсіях. Калі вясной іншыя расліны, дрэвы і хмызнякі ледзь пачынаюць выпускаць першыя пупышкі, вярба ўжо зіхаціць яскравымі бела-срэбнымі пацеркамі. Яна нібы прадвяшчае хуткае прыйсце Вялікадня. Гэтае дрэва не баіцца неспрыяльных прыродных умоў, можа расці як уздоўж дарог, так і на балоце. Менавіта таму ў Касцёле вярба лічыцца сімвалам адраджэння жыцця, неўміручасці душы і ўваскрасення. Раней яе галінкі зразалі ўжо ў першы дзень Вялікага посту, у Папяльцовую сераду, і ставілі ў ваду, каб яны выпусцілі зялёныя пупышкі акурат на Пальмовую нядзелю.

Пашана да вярбы звязана і з народнай традыцыяй. З-за шматлікасці "коцікаў" яна з'яўлялася сімвалам урадлівасці. Прыпісвалі ёй і аздараўленчую моц. Здаўна ў сем'ях вернікаў існаваў звычай спажываць асвечаныя пупышкі. Меркавалі, што такім чынам можна ўберагчы сябе ад шматлікіх хвароб, асабліва ад болю ў горле.

Цікава, што апошняе сімвалічнае значэнне вярбы мае пэўнае адлюстраванне ў лячэбных уласцівасцях, дзякуючы якім яна здаўна выкарыстоўваецца ў народнай медыцыне. Кара гэтага дрэва ўтрымлівае саліцылавую кіслату, якая неабходна для вытворчасці аспірыну ў сінтэтычных умовах. Пры лячэнні яна дае супрацьзапаленчы і абязбольваючы эфект.

## УЗНОСІЦЬ НЕ ТОЛЬКІ ПАЛЬМЫ, АЛЕ І СЭРЦЫ

Зразумела, што само па сабе бласлаўленне вярбы ў Пальмовую нядзелю без малітвы і ўсведамлення важнасці падзеі мала што значыць. На парозе Вялікага тыдня Вербніца пабуджае да разважанняў над бясконцай Божай любоўю і грэшнасцю чалавека. Пальмовая нядзеля – гэта апошняя "прамая" да здзяйснення галоўнай Таямніцы. Нам лёгка з радасцю сустракаць Збаўцу і следаваць за Ім, калі Ён урачыста з'яўляецца сярод натоўпу і мы ва ўнісон з сабранымі выкрыкваем прывітальныя словы. Езуса акцэптуюць людзі побач, і мы не баімся, не саромеемся прымаць Яго. Важна, які выбар мы робім пазней. Ці прымаем Хрыста, пакінутага ўсімі? Ці адважваемся ісці за Езусам, які нясе ўжо не карону, а крыж? Ці гатовыя прыняць усю праўду і не трымаць яе толькі для сябе, але абвяшчаць навокал? Ці станем на Божы шлях – шлях пакоры? Ці пойдзем за Хрыстом да самага канца?

Урачыстасць Пальмовай нядзелі таксама падштурхоўвае задумацца над тым, як мы паводзім сябе ў святыні, чаго чакаем ад удзелу ў св. Імшы і набажэнствах. У Касцёле здараецца шмат трыумфальных момантаў, узнёслых хвілін, такіх як эйфарычны ўзмах аздобленай галінкай вярбы. Ці не настроены мы на выключна такога роду перажыванні? Ці прыцягвае нас з такой жа моцай Касцёл ціхі і сціплы?

Не будзем жа вабіцца толькі постаццю Езуса, які пераможна заязджае ў Іерусалім. Варта адкрыць паклікання крочыць таксама за тым Хрыстом, які стрыманы і лагодны.



***Вербніца ў хрысціянскім календары з'яўляецца рухомым святам, якое адзначаецца за 7 дзён да Вялікадня. У гэтым годзе яна прыпадае на 14 красавіка.***

*Ангеліна Марцішэўская*



***Кс. Павел Беланос***

*Асвечаную ў Пальмовую нядзелю вербачку вернікі з пашанай захоўваюць у сваіх дамах, напрыклад, побач з абразом ці крыжам, каб прыгадвала ім пра ўваскрасенне і бессмяротнасць душы. Звычайна яна знаходзіцца там на працягу аднаго года, аднак гэта не з'яўляецца непарушным правілам. Калі набліжаецца Вялікі пост, леташнія вербы па звычаі прыносяць у касцёл. Іх спальваюць, а попелам у Папяльцовую сераду пасыпаюць галовы вернікаў.*

*Калі ў парафіі перад Папяльцовай серадой вербы не збіраюцца ці вернік не паспеў занесці яе ў святыню, неабходна аднесціся да асвечанага сімвала з пашанай: не выкідваць на сметнік, а закапаць у садзе або самастойна спаліць.*

*Цікавая традыцыя годнага захавання вербачак ужо на працягу некалькіх дзесяткаў гадоў трывае ў адным з рэгіёнаў Польшчы. Там укараніўся звычай упрыгожвання вербамі магіл памерлых блізкіх. Гэта мае сімвалічнае значэнне і прыгадвае аб новым жыцці тых, хто адышоў у вечнасць.*

# ВЕЛІКОДНЫЯ ПІСАНКІ: ІДЭІ ДЛЯ АФАРБОЎКІ

***Велікодная пісанка – адна з неаддзельных і найстаражытнейшых традыцый, звязаных з адзначэннем свята Уваскрасення. Хоць фарбуем яйкі непасрэдна перад урачыстасцю, ідэі для выканання можам пачаць збіраць нашмат раней. Таму прапануем выключныя і эксклюзіўныя ў сваім родзе задумкі для пісанак, зробленых уласнымі рукамі, на Вялікдзень 2019.***



### У ЭКА-СТЫЛІ

Хіба, самым вядомым способам, якім на працягу многіх гадоў карыстаюцца нашы бабулі і мамы, з'яўляецца варэнне яек з прадуктамі, якія надаюць шкарлупінам натуральны колер. Такія яйкі называюць крашанкамі. Колер шкарлупіны можна атрымаць па-рознаму:

**- карычневы** – варым яйкі з шалупіннем цыбулі;

**- карычнева-залаты** – каб атрымаць трохі святлейшае карычневае адценне, варым яйкі ў шкарлупінах грэцкіх арэхаў;

**- ружовы, чырвоны** – патрэбны буракі ці бурачны сок;

**- зялёны** – варым яйкі ў адвары з маладым збожжам (напрыклад, з жытам ці зялёным ячменем) або дадаём шпінат ці падобную зяляніну;

**- жоўты** – варым яйкі з дадаткам прыправы кары ці куркумы;

**- аранжавы** – дадаём маркоўны сок ці дыню;

**- блакітны, сіні** – варым яйкі з пладамі цярноўніка ці дурніц або з лісцем чырвонай капусты. (Лісце трэба загадзя заліць кіпнем, дадаць у ваду 5 лыжак воцату і пакінуць на ноч. На 2-гі дзень зварыць яйкі ў гэтым растворы).

З выбранага кампанента рыхтуем адвар (мала вады, шмат фарбавальніка – ад гэтага залежыць інтэнсіўнасць колеру). У прыгатаваным растворы варым яйкі каля 10-ці хвілін, пакуль не атрымаем пажаданы колер. Падчас варкі варта дадаць дробку воцату, які ўмацуе колер на крашанцы. Пасля прыгатавання яйкі можна пакінуць астыць у адвары, але не даўжэй, чым на чарговыя 10 хвілін. У канцы трохі змазаць алеем, каб прыгожа блішчалі.

### ДРАПАНЫЯ

Яйкі, якія ўжо пафарбаваны натуральнымі ці штучнымі фарбавальнікамі, можна дадаткова аздобіць, надрапаўшы на іх адмысловыя ўзоры пры дапамозе іголкі ці маленькага ножыка. Гэта стары і дастаткова часазатратны метад, аднак яго канчатковы эфект – цудоўны і непаўторны.

### З РАСЛІННЫМ МАТЫВАМ

Гэтыя пісанкі выглядаюць, як выкананыя народным умельцам. На самой жа справе для іх выканання не патрабуюцца спецыяльныя мастацкія навыкі. Патрэбны невялікія лісцікі і галінкі розных раслін, напрыклад, канюшыны. З-за складанасці іх прыклейвання да шкарлупіны, расліну неабходна прыкласці да яйка і шчыльна загарнуць у сетку ці сетчатую панчоху. Падрыхтаваныя такім чынам яйкі варым у шалупінні цыбулі. Калі яйкі пафарбуюцца ў карычневы колер, вымаем іх з каструлькі і пакідаем астываць. Толькі потым здымаем сетку і лісце.

### МАЛЯВАННЕ ВОСКАМ

Працуем на сырых яйках, таму трэба быць асцярожнымі. Спатрэбіцца воск у падагравальніку, які ўвесь час неабходна падтрымліваць у вадкім стане, а таксама прылады працы – кравецкая шпілька, прымацаваная да палачкі.

Пачынаем з малявання воскам ліній, якія павінны раздзяляць плошчу шкарлупіны на роўныя часткі. Вертыкальнымі трэба правесці праз вяршкі яйка, а гарызантальнымі падзяліць яго напалавіну.

Апяразанае васковымі лініямі яйка замочваем у жоўтым фарбавальніку. Пасля асцярожна вымаем яго, высушваем і малюем першыя аздабленні. Тыя фрагменты, якія памажам воскам, застануцца жоўтымі.

Затым кладзём яйка ў чырвоны фарбавальнік. Пасля вымаем і дадаём чарговыя ўзоры, не сціраючы папярэдніх фрагментаў воску. Гэтым разам пад воскам фіксуем тое, што павінна быць чырвоным.

Пасля астывання воску акунаем яйка ў блакітны фарбавальнік. Калі афарбуецца, вымаем яго, высушваем і здымаем воск: спачатку разаграваем яйка над полымем свечкі, пасля чаго сціраем злёгку расплаўлены матэрыял папяровым ручніком ці мяккай тканінай.

***"Калі хтосьці грэшны памрэ і яго душа пойдзе ў пекла, то д'ябал адразу пытаецца, ці яшчэ распісваюць пісанкі, бо ведае, што калі б перасталі, быў бы канец свету. Але яйкі фарбуюць увесь час, таму ёсць і будзе да канца свету Вялікдзень",*** – так некалі людзі тлумачылі неабходнасць размалёўвання пісанак. Усе, хто калісьці спрабаваў іх зрабіць, ведаюць, што гэта нялёгка. Але як прыемна з гонарам пакласці ў кошык уласнаручна аздобленыя яйкі!

*Кінга Красіцкая*

# КОШЫК СА СВЯНЦОНКАЙ. ШТО ПАВІННА Ў ІМ БЫЦЬ

**Вялікая субота – гэта традыцыйны час асвячэння страў, якімі ў каталіцкіх сем'ях распачынаецца ўрачысты сняданак пасхальнай раніцай. Кожная з размешчаных у велікодным кошыку рэчаў мае ўласны сімвал. Усе элементы свянцонкі ўспрымаюцца як Божыя дары і павінны прыгадваць пра важныя матэрыі, патрэбныя, каб плённа разважаць Муку і Уваскрасенне Хрыста.**

### ЯГНЯ З ХАРУГВАЙ

Знак уваскрослага Хрыста. На харугве змешчаны крыж і надпіс "Алелюя", які выражае радасць ад перамогі Жыцця над смерцю і перадолення граху. Сімволіка ягняці мае глыбокія біблійныя карані. У Старым Запавеце гэта ўцёкі яўрэяў з Егіпта, калі ізраільцяне пазначалі дзверы сваіх дамоў кроўю спажытага ягняці (параўн. Зых 11–12), а таксама характарыстыка Слугі Яхвэ ў прарока Ісаі (параўн. Іс 53). У Новым Запавеце – момант, калі Хрыстос быў названы Баранкам Божым (параўн. Ян 1, 29), пасля чаго ў Вялікую пятніцу Ён збавіў людзей цаной уласнай крыві (параўн. Ян 19). Велікоднае ягня з'яўляецца таксама сімвалам паслухмянасці, нявіннасці і ахвяры.

### ЯЙКА

Старажытны сімвал новага жыцця. У міфалогіі яйка звязана з 4-ма стыхіямі: шкарлупіна – зямля, абалонка – паветра, жаўток – агонь, а бялок – вада. Яно з'яўляецца знакам пачатку жыцця і адраджэння. Падобна як велікоднае ягня, сімвалізуе трыумф Жыцця над смерцю. Успрымаецца таксама як метафара ўтоенага жыцця і сілы існавання. Некалі яек не спажывалі на працягу ўсяго Вялікага посту, і яны вярталіся на сталы толькі на Вялікдзень. Дзяленне асвечаным яйкам мае братэрскі характар і служыць умацаванню сямейных сувязей.

### СОЛЬ

Напамін наказу Хрыста аб тым, што мы як Яго вучні павінны быць "соллю зямлі" (параўн. Мц 5, 13–16). Гэты жыццядайны мінерал спадарожнічае чалавеку са спрадвечных часоў. Надае стравам смак, а дзякуючы кансервацыйным уласцівасцям захоўвае іх ад псавання. З'яўляецца сімвалам жыцця, самай сутнасці існавання, маральных і духоўных сіл, ачышчэння і праўды.

### ХЛЕБ

Памятка размнажэння хлеба ў пустыні, якім Езус накарміў сваіх слухачоў. Сімвалізуе спажытак для душы, г. зн. Цела Хрыста, які сказаў аб сабе: "Я – хлеб жыцця. Хто прыходзіць да Мяне, не будзе галодны..." (Ян 6, 35) – і штодзённую ежу для цела, неабходную для жыцця, што знайшло адлюстраванне ў малітве "Ойча наш" (параўн. Мц 6, 11). Хлеб таксама з'яўляецца знакам Пераісточання, здзейсненага ў прысутнасці апосталаў у вячэрніку. Выражае жаданне прыняцця св. Камуніі. У той жа час хлеб – гэта сімвал поспеху, дастатку і сытасці. Для асвячэння дастаткова адрэзаць толькі кавалак, які пазней спажывём падчас велікоднага сняданку.




### ВЯНДЛІНА

Сімвал ягняці, якое ізраільцяне забівалі, каб адзначыць свята Пасхі. У мінулым, калі мяса спажывалі час ад часу, таму што было дарагім, яно лічылася знакам дастатку. У кошык са свянцонкай укладаем звычайна кавалак шынкі ці каўбасу.

### ПЕЧЫВА

Знак майстэрства, таму лепш за ўсё, калі гэта хатняя выпечка – выраз нашых уменняў. Печыва – таксама сімвал неаформленай матэрыі, ператворанай у дасканалую форму. Яго салодкасць з'яўляецца ўзнагародай за трываласць у самаўтаймоўванні падчас Вялікага посту і звеставаннем Нябеснага Валадарства: "Пакаштуйце, які добры ёсць Пан" (Пс 34, 9).

### СЫР

Знак сувязі паміж чалавекам і прыродай. Заахвочвае да ўдзячнасці за спажытак, атрыманы ад жывёл, і да пашаны да іх.

### ХРЭН

Сімвал горычы Мукі Пана – з-за вострага смаку і здольнасці выклікаць слёзы. Азначае фізічную моц, чалавечыя сілы і жыццяздольнасць.

Сярод элементаў свянцонкі могуць таксама быць іншыя прадметы (розніцы вынікаюць з рэгіянальных традыцый):

***вада*** – сімвал Святога Духа;

***перац*** – сімвал горкіх зёл;

***зайчык*** – сімвал пладавітасці і адраджэння прыроды;

***куранятка*** – сімвал новага жыцця (некалі казалі, што Хрыстос устаў з магілы, "як кураня з яйка").

## З КАТАЛІЦКІХ СМІ

CATHOLIC.BY

### Дыялог па праблеме хатняга насілля

***Круглы стол па пытаннях аказання дапамогі пацярпелым ад уціску ў сям'і прайшоў у Мінску.***

*У мерапрыемстве прынялі ўдзел прадстаўнікі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Беларусі, Беларускай Праваслаўнай Царквы, Міністэрства ўнутраных спраў, Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь. У яго межах быў абмеркаваны крытычны блок пытанняў, сярод якіх актуальнасць праблематыкі, прававыя асновы супрацьдзеяння хатняму насіллю, механізмы рэагавання на сітуацыю.*

*Па дадзеных МУС, у мінулым годзе колькасць грамадзян, прыцягнутых да адміністрацыйнай адказнасці за насілле ў сям'і, склала каля 50-ці тысяч. Узбуджана 2586 крымінальных спраў. Ад рук блізкіх загінуў 91 чалавек.*

DEON.PL

### Напад на святара

***Падчас вячэрняй св. Імшы ў Эдмантоне (Канада) на цэлебранта напалі малады чалавек, паваліў яго на зямлю і пачаў душыць.***

*Інцыдэнт адбыўся ў парафіі Маці Божай Каралевы Польшчы. У рукі злачынца трапіў а. Марцін Міранюк CMOSIV. На шчасце, святар не пацярпеў, таму што яму на дапамогу своечасова прыйшлі пажылыя парафіянкі, якія прымалі ўдзел у Эўхарыстыі. Жанчыны сталі біць напаўшага кійкамі. Той паслабіў хватку і ўцёк.*

*Гэта ўжо 2-гі за апошні час напад на святара ў Канадзе. Некалькі дзён таму ў час св. Імшы нажом быў паранены кс. Клод Гроу з Монрэаля.*

niedziela TYGODNIK KATOLICKI

### Французская мова ў Ватыкане

***У Апостальскай Сталіцы слабее значэнне галоўнай да нядаўняга часу мовы дыпламатыі. Францыя хоча змяніць сітуацыю.***

*Па гэтай прычыне ўзнікла прапанова адкрыць бясплатныя лінгвістычныя курсы для высокапастаўленых чыноўнікаў Рымскай курыі. У гэтай справе было падпісана пагадненне паміж Апостальскай Сталіцай і пасольствам Францыі.*

*Сёння вялікая частка Каталіцкага Касцёла з'яўляецца франкамоўнай: не толькі ў Еўропе, але таксама ў Афрыцы і Азіі. Ватыкан усведамляе, што веданне гэтай мовы не толькі карыснае, але і неабходнае.*




## *Ці можа католік карыстацца малітвамі іншых веравызнанняў?*

*Часам асоба каталіцкага веравызнання знаходзіць нейкія вельмі прыгожыя тэксты або малітвы ў літаратуры іншай канфесіі. Можа даходзіць да таго, што чалавек перажывае ўнутраны канфлікт паміж жаданнем карыстацца знойдзенай дзесьці малітвай і страхам памыліцца, духоўна нашкодзіць сабе, а магчыма, яшчэ і іншым.*

*Самы просты спосаб пазбавіцца сумненняў – звярнуцца да мясцовага душпастыра і параіцца з ім. Калі вернік адчувае, што святар можа памыліцца або няправільна яго зразумець, павінен звярнуцца да іншага душпастыра або ў дыяцэзіяльную курыю. Справа ў тым, што існуюць фальшывыя малітвы, неадпаведныя праўдзе веры, і нават магічныя заклікanні, "апранутыя" ў хрысціянскія малітоўныя выразы. На першы погляд яны могуць здавацца зусім нявіннымі, і толькі чалавек з тэалагічнай адукацыяй можа распазнаць фальш, разыходжанні з Божым Аб'яўленнем, Традыцыяй Касцёла, супярэчнасць з дактрынай Касцёла. Прыкладам псеўдамалітвы з'яўляюцца маленні, у якіх асоба не просіць Бога, але Яму загадвае. Часам можна натыкнуцца на псеўдамалітвы, у якіх заклікаюцца нейкія сілы прыроды, камусьці са святых прыпісваюцца боскія рысы, а сам Бог адсоўваецца ў цень, нібыта Яго няма.*

*Пасля ліхалеццяў атэістычнай сістэмы існуюць сур'ёзныя прабелы ў распазнаванні праўды ў рэлігійнай сферы. Гэта выкарыстоўваюць разнастайныя секты, якія распаўсюджваюць шкодныя культы і вучэнні. Ведаючы, што значная частка нашага грамадства – гэта праваслаўныя, распаўсюджвальнікі нехрысціянскіх публікацый імкнуцца выдаць іх за нібыта праваслаўныя або пабласлаўленыя кімсьці з праваслаўных іерархаў. Аднак практыка паказвае, што далёка не кожная рэлігійная літаратура мае нешта агульнае з Царквою, імем якой падпісваецца. Такія "самазваныя" кнігі, фільмы, малітоўнікі часам абяцаюць вернікам духоўнасць, якая ў выніку заканчваецца акультызмам, кантактам з неспазнанымі сіламі.*

*Католікі, якія жывуць у асяроддзі практыкуючых праваслаўных вернікаў, могуць многаму ад іх навучыцца. Але некрытычнае выкарыстанне літаратуры іншай канфесіі, хоць і хрысціянскай, азначае ўваходжанне на малазнаёмую тэрыторыю, ад чаго пагроза памыліцца моцна ўзрастае. Вернік, які мае слабыя ўяўленні аб асаблівасцях хрысціянскай праўды, можа незаўважна для сябе павесціся на падман.*

*Такім чынам, варта перадусім пытацца сябе не пра тое, ці можна карыстацца малітвамі іншых канфесій, але навошта гэта рабіць? Навошта шукаць у кагосьці тое, што ўжо маем у сябе? Варта пазнаваць сваю хрысціянскую годнасць, багацце веры, духа і малітвы Хрыстовага Касцёла, чэрпаць з гэтага багацця і дзяліцца ім з іншымі.*

***Кс. Андрэй Рылка***
*Паводле ave-maria.by*

# ДУХ АНТЫХРЫСТА СЁННЯ

### ХТО ТАКІ АНТЫХРЫСТ?

Антыхрыст – гэта праціўнік Хрыста, які імкнецца знішчыць Яго Валадарства. Ён карыстаецца гвалтоўнымі метадамі, прымушаючы вучняў Езуса да адступніцтва, ці тэхнікай падману, аддаляючы іх ад веры. На працягу стагоддзяў гэтым імем называлі асобных людзей і групы асоб, маніпуліруемых д'яблам і атакуючых Хрыстовы Касцёл.

Многія спрабуюць разгадаць лічбу 666, каб даведацца імя канчатковага антыхрыста, які павінен запанаваць над светам. Аднак яно застанецца таямніцай аж да моманту, калі антыхрыст атрымае ўладу над усім і распачне жорсткае праследаванне хрысціян. Ён павінен з'явіцца непасрэдна перад паўторным прыходам Хрыста. "А пра дзень той або гадзіну ні анёлы ў небе, ні Сын, ніхто не ведае, а толькі Айцец" (Мк 13, 32). Парузія ж настане толькі пасля таго, як "прыйдзе адступніцтва і з'явіцца беззаконны чалавек, сын згубы, які будзе праціўнік і ўзвышацца над усім, што называецца Божым і годным пашаны, так што засядзе ў Божай святыні, выдаючы сябе за Бога" (2 Тэс 2, 3–4).

### АНТЫХРЫСТ "ЦЯПЕР УЖО ЁСЦЬ НА СВЕЦЕ"

У гэтых разважаннях гаворка пойдзе пра антыхрыста ў калектыўным сэнсе, які "цяпер ужо ёсць на свеце" (1 Ян 4, 3). Вельмі важна і абавязкова ўмець распазнаць дух антыхрыста, распазнаць словы і ўчынкі людзей, якія на працягу "апошняй гадзіны" (параўн. 1 Ян 2, 18), г. зн. ад пачаткаў Касцёла ажно да хвіліны паўторнага прыходу Хрыста, змагаюцца з Яго Валадарствам і падманваюць Яго вучняў.

"Дзеці, настала апошняя гадзіна, і як вы чулі, што прыйдзе антыхрыст, так і цяпер з'явілася шмат антыхрыстаў..." (1 Ян 2, 18). Св. апостал Ян папярэджвае, што з'яўленне мноства асоб, што варожа настаўлены да Хрыста і падробліваюць Яго навуку, прадказвае моцны, цэнтралізаваны ўдар па Яго Валадарству і жорсткі пераслед. Біблійныя каментатары лічаць, што апосталы ўказваюць на тагачаснага антыхрыста – імператара Нейрона, акрэсліваючы яго лічбай 666.

### ДУХ ХРЫСТА І ДУХ АНТЫХРЫСТА

У Катэхізісе Каталіцкага Касцёла таксама знаходзім аўтарытэтную перасцярогу і напамін аб неабходнасці распазнання духа антыхрыста: "Да другога прышэсця Хрыста Касцёл павінен прайсці праз апошняе выпрабаванне, якое падарве веру шматлікіх вернікаў. Праследаванні, якія суправаджаюць зямное паломніцтва Касцёла, адкрыюць «таямніцу беззаконня» ў форме ілжэрэлігіі, якая прыносіць людзям уяўнае рашэнне іх праблем цаной адступніцтва ад ісціны. Крайняй формай ілжэрэлігіі з'яўляецца пакланенне антыхрысту – ілжэмесіянізм, дзе чалавек усслаўляе самога сябе замест Бога і Яго Месіі, што прыйшоў у целе" (ККК 675).

Наша заданне – адрозніць дух Хрыста ад духа антыхрыста, каб не быць ім падманутымі. "Умілаваныя, не кожнаму духу верце, але правярайце духаў, ці яны ад Бога, бо шмат ілжэпрарокаў з'явілася на свеце. Па гэтым распазнаеце Божага Духа: кожны дух, які вызнае, што Езус Хрыстус прыйшоў у целе, ёсць ад Бога. І кожны дух, які не вызнае Езуса, той не ад Бога; гэта дух антыхрыста..." (1 Ян 4, 1–3).



Хто не прызнае ў Езусе Хрысце "Бога з Бога", а ў Яго словах – абсалютнай праўды, хто адносіць Яго толькі да мудрых людзей, ставіць хрысціянства нараўне з іншымі рэлігіямі, той супярэчыць Уцелаўленню Божага Сына і адступаецца ад праўды. Так ён становіцца ворагам Пана – антыхрыстам.

### ГУМАНІЗМ ВЫШЭЙ ЗА БОГА

Не ўдасца пералічыць усе праяўленні дзейнасці антыхрыста ў сучасным свеце. Пачынаючы з разбэшчвання дзяцей і моладзі насіллем і распустай па тэлебачанні і ў інтэрнэце праз кантрацэпцыю, аборты, гомасексуалізм і гендэрную ідэалогію, заканчваючы скандаламі аб педафіліі ў Касцёле і адкрытым сатанізмам, сённяшні антыхрыст не толькі стараецца знішчыць Валадарства Хрыста, але і вядзе да дэградацыі ўсяго чалавечага роду.

Сучасны антыхрыст імкнецца быць падобным да Хрыста, апранаецца ў шаты "Месіі талерантнасці", "Настаўніка ўсмешкі", які "шкадуе і любіць людзей", таму адабрае маральныя правіны і паблажліва даваляе грашыць. Апранаецца ў шаты "дабрадушнага Езуса", які бясконца прабачае і не патрабуе ніякай працы над сабой.

Бп Фултан Шын (1895–1979) запэўніваў, што антыхрыст з'явіцца ў аблічы вялікага гуманіста. Будзе гаварыць пра супакой, дабрабыт і міласэрнасць, але накіроўваць людзей не да Бога, а да самога сябе. Учыніць так, што тыя, хто захоча верыць згодна з Евангеллем, адчуюць сябе пасаромленымі перад тымі, хто будзе абвінавачваць іх у недахопе адкрытасці і лібералізму. Прывядзе да таго, што талерантнасць і абыякавасць стануць тым жа самым, змяшае дабро і зло. Будзе гаварыць пра Хрыста як пра найбольшага з тых, хто калі-небудзь жыў на зямлі, аднак усяго толькі чалавека. Створыць сваю атэістычную рэлігію, якая будзе братэрствам без бацькоўства Бога. Ашукае нават выбраных.

### ДЫКТАТУРА РЭЛЯТЫВІЗМУ

Рэлятывізм – гэта светапогляд, які запэўнівае, што абсалютнай праўды не існуе, таму ўсякае сцвярджэнне адноснае. У рэлігійнай сферы ён дазваляе кожнаму мець індывідуальнае ўяўленне аб Богу і ўласную маральнасць. Папа Бенедыкт XVI такі спосаб мыслення – асабліва папулярны ў XXI стагоддзі – назваў "дыктатурай рэлятывізму": "Вызнаванне выразна акрэсленай веры, згоднай з «Credo» Касцёла, часта называецца фундаменталізмам. У той час як рэлятывізм, паддаванне «кожнаму павеву навукі», здаецца адзінай паставай, годнай для сучаснай эпохі. Ствараецца своеасаблівая дыктатура рэлятывізму, які нічога не прызнае як канчатковае, а адзінай мерай рэчаў лічыць толькі ўласнае «я» і яго жаданні".

Гэта вельмі кароткае, але дакладнае апісанне дзейнасці сучаснага антыхрыста. Калі ў свядомасці людзей сціраюцца межы паміж праўдай і падманам, паміж дабром і злом, гэта вядзе да адступніцтва ад Бога.

### ТАЛЕРАНТНАСЦЬ ДА ГРАХУ Ў ІМЯ СВАБОДЫ, РОЎНАСЦІ І БРАТЭРСТВА

Сапраўднай талерантнасцю да іншага чалавека з'яўляецца хрысціянская любоў да непрыяцеляў. Езус сказаў: "Калі хто ўдарыць цябе па правай шчацэ тваёй, падстаў яму і другую. Калі хто захоча судзіцца з табою і ўзяць у цябе кашулю, аддай яму і плашч. [...] Любіце ворагаў вашых і маліцеся за тых, хто праследуе вас" (Мц 5, 39–40. 44). Сапраўдным хрысціянам заўсёды была характэрна зычлівасць і цярплівасць да іншага чалавека. Адначасова Касцёл стала прыпамінае аб "чужых грахах" як наступстве занядбання сведчання аб праўдзе. Антыхрыст жа прымушае сёння да фальшывай талерантнасці – прынящця чалавечых грахоў і правін у імя фальшывай міласэрнасці.

Універсальны маральны светапогляд – гэта быццам новая атэістычная рэлігія антыхрыста. Перакананне ў праўдзівасці Евангелля аблаяна і названа "фундаменталізмам", "радыкалізмам", "рэлігійным экстрэмізмам" і "нецерантнасцю". Быць чалавекам у поўнай меры – значыць змагацца за "сусветную свабоду, роўнасць і братэрства".

Звернем увагу, што талерантнасць антыхрыста абараняе дрэнных людзей і не абараняе права на свабоду сумлення людзей добрых (напрыклад: урач, які верыць у Бога і не хоча забіваць дзіця ва ўлонні маці, вымушаны пераступаць праз уласнае сумленне і рабіць аборт у імя права свабоды жанчыны, якая гэтага пажадала).

Калі б першыя хрысціяне прытрымліваліся гэтай талерантнасці антыхрыста, не было б святых сведкаў веры, а Касцёл знік бы з твару зямлі. Калі б св. Моніка прытрымлівалася сучаснай талерантнасці, мы б не мелі св. Аўгусціна – доктара Касцёла. Калі б св. Антоній Падуанскі прытрымліваўся талерантнасці, не ўчыніў бы ніводнага цуду.

Кард. Джакама Біфі (1928–2015) сцвярджаў, што калі хрысціянства, адкрываючыся на свет і дыскутуючы з усімі, не будзе абвяшчаць смерць і ўваскрасенне Езуса, стане адной з ідэалогій і апынецца на старане антыхрыста.

Ілжэталерантнасць антыхрыста, калі не супраціўляцца ёй, прывядзе да абыякавых адносін да дабра і зла, праўды і падману, а ў выніку – да вераадступніцтва і роспачы, калі людзі, паміраючы, будуць праклінаць жыццё, сябе і Бога. "Маўклівае вераадступніцтва" назіраецца ўжо сёння ў сітуацыі, калі католік ходзіць у касцёл і разам з тым згаджаецца ў сваім сэрцы з поглядамі, не згоднымі з вучэннем Касцёла (напрыклад, адабрае аборты, эўтаназію або гомасексуалізм), хоць і не аб'яўляе аб гэтым гучна.

Св. Аўгусцін гаварыў: "Усе, хто не любіць Бога, з'яўляюцца антыхрыстамі... Так і ўнутры Касцёла ёсць ворагі Бога, сэрцамі якіх завалодаў дух антыхрыста... Таму няхай кожны прааналізуе сваё сумленне, ці не антыхрыст ён!".

*Кс. Тадэвуш Крыштопік*

НАВІНЫ



## ВЕЛІКАПОСНЫЯ РЭКАЛЕКЦЫІ

Вялікі пост павінен перажывацца як час навяртання, асабістага і супольнаснага аднаўлення праз набліжэнне да Бога і верную паслухмянасць Евангеллю. Так ён дазваляе нам паглядзець новымі вачыма на сваіх бліжніх і іх патрэбы. Цяжка ўявіць перамену сэрца без добрага перажывання рэкалекцый у гэты святы перыяд. Яны ўяўляюць сабой час асаблівай сустрэчы з любячым Айцом, час выхаду ў пустыню, час, каб зірнуць на прозу жыцця на адлегласці і зрабіць добрыя пастановы.

У многіх парафіях Гродзенскай дыяцэзіі адбыліся або яшчэ плануюцца велікапосныя рэкалекцыі. У Гродне ўжо прайшлі духоўныя практыкаванні для навучэнцаў Тэалагічнага каледжа св. Казіміра. Яны сталі магчымасцю паглыблення адносін з Езусам-Словам, які звяртаецца да чалавека са старонак Бібліі.

Свой дзень засяроджання пад назвай "Катэхеза ў кантэксце новай евангелізацыі" перажылі таксама катэхеты дыяцэзіі. Вядучыя, якія ўжо амаль 30 гадоў займаюцца евангелізацыяй, даючы сваё асабістае сведчанне і перадаючы веды, адзначылі, што трэба найперш змяніць сваё сэрца, свой спосаб мыслення, пасля чаго прыходзяць метад і тэхніка.

Моладзь гродзенскіх парафій сабралася ў рэктаральным касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі на велікапосным чуванні. Маладыя людзі паманіліся перад Найсвяцейшым Сакрамантам, імкнучыся стаць перад Панам у сапраўдным абліччы.

3-дзённыя рэкалекцыі перажывалі ў Доме міласэрнасці ў Сапоцкіне супрацоўнікі Дабрачыннага каталіцкага таварыства "Карытас" з усіх дыяцэзій нашай краіны.

### БІСКУПСКІЯ ВІЗІТЫ



Ва ўрачыстасць Звеставання Пана біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч наведаў Сакулку (Польшча). У Санктуарыі Эўхарыстычнага цуду іерарх узначаліў св. Імшу.

Дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі ў гэты дзень цэлебраваў урачыстую св. Імшу ў рэктаральным касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі ў Гродне, а таксама ўзначаліў парафіяльны адпуст у Перстуні (дэканат Сапоцкін).

### ВЫШЭЙШАЯ ДУХОЎНАЯ СЕМІНАРЫЯ



Навучэнцы гродзенскай семінарыі наведалі дом-інтэрнат у Галавічполлі. Там знаходзяцца дзеці з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця, якія адчуваюць вельмі моцны недахоп у бацькоўскай любові і клопаце. Час, супольна перажыты з выхаванцамі дома-інтэрната, стаў для будучых святароў яшчэ адным заклікам несці жыццядайнае пасланне Евангелля самым абяздоленым, хворым і пакінутым людзям.



### АДНЫМ РАДКОМ

• Трэнінг-семінар па вядзенні прадпрымальніцкай дзейнасці адбыўся ў Навагрудку. • Малітву за Беларусь правялі ў гродзенскай катэдры. • Крыжовы шлях у інтэнцыі сем'яў адбыўся ў гродзенскай парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля. • Члены душпастырства цвярозасці Гродзенскай дыяцэзіі ў катэдральным касцёле ў Гродне правялі Крыжовы шлях у інтэнцыі залежных ад алкаголю, наркотыкаў, інтэрнэту. • Спектакль-містэрыю пад назвай "Аднойчы на скрыжаванні" паказалі ў гродзенскім касцёле Найсвяцейшага Адкупіцеля. • Нацыянальны "Карытас" правёў у Смаргоні трэнінг для падлеткаў пад назвай "Я і інтэрнэт". • Міністранты са Шчучына наведалі навіцыят айцоў піяраў у Жэшуве і семінарыю ў Кракаве (Польшча). • Намеснік старшыні Сенату Польшчы Марыя Коц прыбыла з візітам у Касцёл на Гродзеншчыне. • Велікапосныя дні малітвы для дзяўчат адбыліся ў Адамавічах, Гудагаі і Навагрудку. • "Канікулы з Богам" для дзяцей прайшлі ў смаргонскім араторыі імя св. Яна Боска пры парафіі св. Міхала Арханёла.

*Агляд навін падрыхтаваны на аснове інтэрнэт-старонкі* ***grodnensis.by.***

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**19 красавіка 1947 г.** – кс. Марцін Пузырэўскі, *проб. Адэльск.*

АНОНСЫ

## ПРАЦЭСІЯ ВУЛІЦАМІ ГРОДНА АДБУДЗЕЦЦА Ў ПАЛЬМОВУЮ НЯДЗЕЛЮ

**Як і ў мінулыя гады, яна пачнецца ў 13.00 на Пабернардынскім узгорку.**

Вернікі пройдуць па Савецкай плошчы да катэдральнага касцёла св. Францішка Ксаверыя, дзе ў 14.00 біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч узначаліць св. Імшу. Да ўдзелу ў працэсіі і св. Імшы запрашаецца моладзь Гродзенскай дыяцэзіі.

*У рамках сустрэчы адбудзецца традыцыйны конкурс вербаў, падчас якога парафіі, а таксама маладзёвыя суполкі прэзентуюць свае святочныя пальмы.*

## X ФЭСТ ЭКСКУРСАВОДАЎ ПРОЙДЗЕ Ў ГРОДНЕ

**У межах мерапрыемства кожны ахвотны зможа бясплатна наведаць шэраг экскурсій, у тым ліку прысвечаных гісторыям гродзенскіх храмаў. Яны запланаваны на 13 красавіка.**

Падчас фэста ўдзельнікам будзе набліжана гісторыя знакамітага абраза "Танец смерці", які захоўваецца ў манаскім доме сясцёр назарэтанак у Гродне.
Таксама адбудзецца экскурсія па старым лямусе ад Інфармацыйна-турыстычнага цэнтра Гродзенскай дыяцэзіі і экскурсія па рэктаральным касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі ад кс. каноніка Антонія Грэмзы.
Пра ўніяцкую царкву раскажа а. Андрэй Крот, пра Свята-Пакроўскі сабор – а. Георгій Рой, а гісторыю лютэранскай кірхі прадставіць пастар Уладзімір Татарнікаў.

*Канчатковы варыянт праграмы фэста будзе апублікаваны 7 красавіка на сайце festguides.by. Разам з праграмай адкрыецца і форма папярэдняй рэгістрацыі.*

## ІМША ХРЫЗМА АДБУДЗЕЦЦА Ў ГРОДЗЕНСКАЙ КАТЭДРЫ

**Згодна з традыцыяй, яна запланавана на Вялікі чацвер, 18 красавіка, і распачнецца ў 10.00. Эўхарыстыю ўзначаліць біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч.**

На св. Імшу ў катэдральную базіліку св. Францішка Ксаверыя – "маці" касцёлаў Гродзенскай дыяцэзіі – запрашаюцца святары, манахі і манахіні, якія служаць у розных парафіяльных супольнасцях Гродзеншчыны, а таксама вернікі, каб супольна дзякаваць Езусу Хрысту за вялікі і цудоўны дар святарства, які Ён на Апошняй Вячэры даў свайму Касцёлу.

## ДНІ МОЛАДЗІ ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ ПРОЙДУЦЬ У ШЧУЧЫНЕ

**У гэтым годзе ўдзельнікаў сустрэчы, якая адбудзецца 6–8 мая, будзе прымаць парафія св. Тэрэзы Авільскай.**

Дэвіз сёлетняга форуму – "Па прыкладзе Марыі буду служыць Пану".
Да ўдзелу запрашаецца моладзь ад 16-ці гадоў (кандыдатам, якім менш за 16 гадоў, неабходны пісьмовы дазвол бацькоў): вучні і студэнты.

*Падрабязную інфармацыю можна атрымаць у а. Яна Асіповіча SP па нумары тэлефона: (8 033) 671-67-24 (VIBER) – або праз электронную пошту: 2019ddm@gmail.com.*
*Па розных пытаннях можна таксама звяртацца да кс. каноніка Антонія Грэмзы, адказнага за Дыяцэзіяльныя дні моладзі: (8 029) 632-43-73, (8 029) 286-31-78; e-mail: gremantos@gmail.com.*

## САНКТУАРЫЙ У ТРАКЕЛЯХ ЗАПРАШАЕ Ў ПІЛІГРЫМКУ Ў ПОЛЬШЧУ

**У праграме аўтобуснага паломніцтва – наведванне гістарычных месцаў і святынь.**

Пілігрымы завітаюць у санктуарый Вамбежыцкай Каралевы Сем'яў, санктуарый Маці Божай Снежнай, куды пілігрымаваў св. Ян Павел II, санктуарый Найсвяцейшай Панны Марыі Яснагорскай і іншыя святыя месцы. Паездка адбудзецца 5–10 мая.

*За больш падрабязнай інфармацыяй звяртацца да кусташа санктуарыя ў Тракелях кс. Юрыя Бяганскага па тэлефоне: (8 029) 289-36-38.*

## Каляндар падзей

***7 красавіка***
*V Нядзеля Вялікага посту. У святынях засланяюцца крыжы і абразы Пана Езуса.*

***13 красавіка***
*28-ая гадавіна заснавання Гродзенскай дыяцэзіі і прэканізацыі кс. б-па Аляксандра Кашкевіча.*

***14 красавіка***
*Нядзеля Мукі Пана (Пальмовая).*
***У гэты дзень у святынях асвячаюцца вербачкі.***

***18 красавіка***
*Вялікі чацвер.*

***19 красавіка***
*Вялікая пятніца.*
***Абавязковы сціслы пост.***

***20 красавіка***
*Вялікая субота.*
***У святынях блаславяюцца стравы на велікодны стол.***

***У Вялікім посце заахвочваем да ўдзелу ў Песнях жальбы і Крыжовым шляху.***

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Красавік***

*Аб святасці нашых сем'яў і ўмацаванні ва ўзаемнай любові бацькоў і дзяцей, старэйшага і малодшага пакалення.*
*Аб шчодрым духоўным плёне Дыяцэзіяльнага сінода.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім. Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё.*

***Інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі grodnensis.by***
*Асвятленне падзей з жыцця Касцёла на Гродзеншчыне. Даступны фота- і відэаматэрыялы.*

Дзіцячы куточак

# Салодкі пачастунак

Дзьмуў сцюдзёны паўночны вецер. З неба сыпаў дробны снег. Андрэй, студэнт аграрнага каледжа, сядзеў у цёплым пакойчыку інтэрната і са смакам уплятаў свежапрыгатаваны суп. А паабедаўшы, заўважыў, што з'еў апошнюю лусту хлеба. Вельмі не хацелася цягнуцца ў магазін, але ж без хлеба доўга не працягнеш! І сябар, з якім Андрэй жыве разам у пакоі, сёння з вёскі вернецца і, напэўна, прывязе ласункі. А як жа іх есці без хлеба? Андрэй жа дадому на выхадныя не паехаў, бо крыху прастудзіўся і вырашыў лепш адпачыць і адаспацца, а не ездзіць па такім холадзе. З вялікай неахвотай ён апрануўся і пайшоў на вуліцу.

Ля ўвахода ў магазін стаяў невысокі хударлявы дзядуля і трымаў у руках невялікую скрыначку з дробнымі манетамі. Андрэй кінуў туды рубель і спытаўся:

– Што, дзядуля, пенсія зусім малая?

– Ды не, дзеткі, пенсія сярэдняя, але лякарствы дарагія. Таму і не хапае, – пажаліўся стары.

Гэты дзядуля жыў каля самага каледжа, і Андрэй часта бачыў, як ён завіхаўся ў сваім двары: даставаў ваду з калодзежа, падмятаў падворак, зімой расчышчаў дарожкі ад снегу... Звычайны працавіты чалавек.

Купіўшы хлеба, хлопец накіраваўся дадому. З кавярні пахла кавай і смачнай выпечкай. Захацелася зайсці, выпіць кубачак чаго-небудзь гарачага з кавалкам торта ці піражным... Ды ведаючы, што да стыпендыі яшчэ цэлы тыдзень, а грошай засталося малавата, Андрэй адмовіў сабе ў гэтым задавальненні.

– Напяку бліноў, – вырашыў ён, успомніўшы, што дома ёсць цэлы слоік клубнічнага варэння.

Пакуль Андрэй завіхаўся на кухні (а ён любіў гэтую справу і вельмі добра вучыўся ў матулі), на вуліцы пачало цямнець. Калі на талерку лёг апошні блін, хлопец зірнуў у акно і заўважыў, што дзядуля, якога ён бачыў днём, толькі цяпер вяртаецца дадому. У яго руках не было ніякіх пакупак.

– Бедны, ён жа замёрз. Можа, яшчэ і на вячэру не мае нічога, – падумаў Андрэй.

І так яму стала шкада гэтага старэнькага чалавека, што хуценька паклаў у місачку бліноў, старанна насмараваўшы іх варэннем, наліў у бутэльку гарачай гарбаты, запакаваў усё і пабег да дзядулі дадому. Той выйшаў на стук і здзіўлена застыў на ганку.

– Вы, напэўна, вельмі замёрзлі. Я напёк шмат бліноў і вырашыў з Вамі падзяліцца, – сказаў Андрэй, працягваючы дзядулю торбу. – Вось, ешце. А місачку я забяру іншым разам, я ж жыву тут недалёка.

– Нават не ведаю, як табе дзякаваць, хлопча, – прашаптаў дзядуля.

– Няма за што. Частуйцеся, на здароўе, – адказаў Андрэй і пабег на аўтобусны прыпынак сустракаць сябра. На сэрцы яму зрабілася весялей і нават здалося, што на двары пацяплела.

*Галіна Зданевіч, г. Ваўкавыск*

# Ад шчырага сэрца

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Юзафу Станеўскаму**

з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем шчодрых Божых ласкаў і дароў Святога Духа. Няхай кожны дзень будзе напоўнены цеплынёй, радасцю і надзеяй, вера толькі ўзмацняецца і ўсё рэалізуецца дзякуючы дапамозе Пана і добрых людзей. Няхай Бог шчодра благаслаўляе, а Найсвяцейшая Маці спадарожнічае ў жыцці!

*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксею Венцкевічу**

з нагоды Дня нараджэння жадаем радасці, моцнага здароўя, сіл і стойкасці ў душпастырскай працы. Няхай Панна Марыя ахінае Вас любоўю і апекай, а таксама выпрошвае ў свайго Сына неабходныя ласкі. Дзякуем за прыгожы прыклад веры, ахвярную працу, зычлівасць і за Ваш сонечны смех.

*Легіён Марыі, малітоўная група Добрага Пастыра з парафіі Божай Міласэрнасці ў Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Астукевічу**

з нагоды Дня нараджэння і 10-годдзя паслугі ў нашай парафіі складаем сардэчныя пажаданні. Няхай добры Бог благаслаўляе, шчодра адорвае патрэбнымі ласкамі, памнажае Вашу веру і напаўняе сэрца любоўю, радасцю і супакоем, каб сваім святарскім жыццём Вы маглі сведчыць аб Божым Валадарстве на гэтай зямлі. Няхай Святы Дух умацоўвае Вас мудрасцю да рэалізацыі Божых планаў, а Найсвяцейшая Маці атуляе сваім плашчом і вядзе да святасці. Дзякуем Вам за зычлівасць і адкрытае сэрца.

*Парафіяне з Індуры*

**Паважанаму Ксяндзу Рышарду Пэрчаку**

з нагоды Імянін складаем самыя сардэчныя пажаданні. Няхай здароўе будзе моцным, у сэрцы заўсёды гасцяць супакой і дабрыня, а энергія спадарожнічае ў працягу доўгіх гадоў жыцця. Жадаем бязмежнай радасці і багатага плёну святарскай працы. Няхай святы Заступнік апекуецца Вамі, а Езус Хрыстус і Яго Найсвяцейшая Маці адорваюць любоўю і асвячаюць кожны дзень душпастырскай паслугі. Шчасці Божа!

*З малітвай, члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Дзітвы*

**Паважанаму Ксяндзу Дзмітрыю Сядлецкаму**

з нагоды Імянін перасылаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай Ваш святарскі шлях будзе шчаслівы і благаслаўлёны, а побач знаходзяцца добразычлівыя людзі. Няхай супакой і радасць пасяляцца ў сэрцы, а шчаслівая ўсмешка ніколі не сыходзіць з твару. Жадаем здароўя, сіл і стойкасці, а таксама моцнай веры, надзеі і любові. Няхай Панна Марыя і Анёл-ахоўнік няспынна Вамі апекуюцца. Шчасці Божа!

*З малітвай, члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Канвелішкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Люцыяну Радомскаму**

з нагоды 70-годдзя сардэчна жадаем шчодрых Божых ласкаў. Няхай кожны дзень будзе напоўнены радасцю і супакоем, а паслуга на карысць Богу і людзям прынясіць шчодрых плён. Жадаем моцнага здароўя, аптымізму, надзеі, сіл для рэалізацыі ўсіх планаў і намераў. Мы ўдзячны Вам за ахвярную працу ў нашай парафіі, абвяшчэнне Божага слова, цудоўны прыклад веры і мудрасці, адкрытае сэрца і нястомны клопат пра кожнага з нас. Няхай добры Бог за ўсё Вас узнагародзіць!

*З павагай і малітвай, вернікі з парафіі св. Ганны ў Лунне*

**Паважанаму Ксяндзу Прэлату Юзафу Трубовічу**

з нагоды Імянін перасылаем букет найлепшых і самых шчырых пажаданняў: моцнага здароўя, рэалізацыі высакародных планаў і намераў, радасці на кожны дзень, сіл і стойкасці на святарскім шляху, Божага благаслаўлення, дароў Святога Духа і апекі Маці Божай! Дзякуем Вам за прыклад веры, цярплівасць і памяркоўнасць. Шчасці Божа!

*Маладыя сем'і з парафіі Беззаганнага Зачацця НПМ, Гродна-Паўднёвы*

**Паважанаму Ксяндзу Каноніку Рышарду Якубцу**

з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем шчодрых Божых ласкаў. Няхай святы Заступнік заўсёды апекуецца Вамі, суправаджае па жыцці і моцна трымае за руку. Няхай вера ўзрастае штодня, надзея ніколі не пакідае сэрца, а любоў квітнее ў душы цудоўнай кветкай, адорваючы ўсіх цеплынёй і дабрынёй. Жадаем таксама моцнага здароўя, сіл і стойкасці ў душпастырскай працы, нястомнай радасці і добразычлівых людзей побач.

*Вернікі з парафіі Мікелеўшчына*

**Паважанаму Ксяндзу Рышарду Пэрчаку**

з нагоды Імянін ад шчырага сэрца жадаем неабходных Божых ласкаў, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і святога Заступніка. Няхай Ваша сэрца заўсёды будзе напоўнена Божай радасцю, любоўю, святлом Святога Духа. Жадаем душэўнага супакою, аптымізму, нязгаснага запалу веры, надзеі і любові. Няхай міласэрны Бог Вас благаслаўляе, а Святы Дух шчодра адорвае сваімі ласкамі. Няхай з Хрыстовага крыжа на Вас выплывае моц, а Божае слова, якое абвяшчаеце, здзяйсняе цуды ў людскіх сэрцах.

*Парафіяне з Белагруды*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Аляксандру Шэмету**

з нагоды Дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, многа сіл, душэўнага супакою ў паслузе ўсемагутнаму Богу і людзям. Няхай кожны дар, які Вы атрымліваеце і ўжо атрымалі ад Пана, будзе надзейнай падтрымкай на шляху святарскага жыцця. Няхай дары Святога Духа, нястомная апека і любоў Найсвяцейшай Маці ўмацоўваюць Вас у кожную хвіліну. Дзякуем за тое, што вучыце нас сапраўднай любові да Касцёла і бліжніх.

*З павагай, удзячнасцю і малітвай, парафіяне з Гродна-Аўгустоўка*

Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця**; Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч**; Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**.
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4**; Юрый Лавыш, Алена Гальчэня; тэл. **8 0152/ 756438**; e-mail: slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.
Друк: **ГАУПП «Гродзенская друкарня»**, ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Палігрnative 4; нумар заказу 1607; тыраж 5240; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная